Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 10 Вільня, Субота, 22-га траўня 1926 г. Год I.

## На раздарожжы.

Палажэньне, якое вытварылася ў Польшчы ў сувязі з аружным выступленьне марш. Пілсудскага, зьмяняецца з кожным днём, ня гледзячы на тое, што сам пан Пілсудскі да гэтых зьмен рукі абсалютна не прыкладае. Наадварот: як мы ўжо прадбачылі ў папярэднім нумары, падзеі пачынаюць разьвівацца далей *міма п. Пілсудскага — па-над яго галавой....*

Справа ў тым, што выступленьне агуртаванае каля п. Пілсудскага арміі мела і мае шмат *глыбейшыя падставы*, чым мо' здаецца павадыру яе. Удар, які зваліў прэзыдэнта Войцеховскага і назначаны ім урад Вітоса, быў нанесены не асабіста паном Войцеховскаму і Вітосу, а *па дыктатарску запанаваўшай над Польшчай рэакцыйнай буржуазіі*, экспазытурай якой зьяўляўся і прэзыдэнт, і скінуты ўрад. Аб гэтым сьведчаць-- з аднаго боку — выступленьні ўсіх тых партыйных групіровак, якія бароняць клясавыя інтарэсы працоўных масаў сялянства і работнікаў, і чыннае ўчасьце ў крывавых падзеях пралетарыяту Польшчы, а з другога—становішча самае-ж польскае буржуазіі, якая ўсім сваім паступаньнем паказуе, што і яна разглядае гэны ўдар, як *пасяганьне на яе „найсьвяцейшыя правы“....*

Калі ў першы мамэнт Пілсудскаму спагадалі роўна ўсе не-фашыстаўскія элемэнты, ўсе, каму ўжо дадзела бязглуздая і нячыстая палітыка апошніх буржуазных урадаў, -- дык пасьля выяўленьня *запраўдных настрояў масы, што йшла за Пілсудскім*, пазыцыя сымпатыкаў апошняга ў істоце сваей значна зьмянілася. Гэта найлепш выяўляецца ў тых *дамаганьнях*, якія стаўляюцца сяньня маршалку Пілсудскаму.

Пад той час, як вялізарная большасьць польскае буржуазіі—ад абурэньня з прычыны пагрозы яе дыктатарскай уладзе-прост ашалела і крычыць аб судзе і кары для „бунтаўшчыка“,—больш разумная частка яе зразумела, што „ліквідаваць“ Пілсудскага, як павадыра апазыцыі, трэба інакш. Так, орган польскіх манархістаў „Słowo“ зусім выразна праводзе думку, што „ўнешкадлівіць“ Пілсудскага, які мае за сабой аружную сілу, трэба ня шляхам барацьбы з ім, а шляхам свайго роду *„прысваеньня“ яго буржуазіяй....* Трэба, кажа газэта, выбраць яго—і толькі яго!—за прэзыдэнта, дык ён і будзе тады бараніць уладу буржуазіі, аддаўшай яму свае галасы! Трэба, значыцца, з аружжа апазыцыі абярнуць яго ў „абаронцу права і канстытуцыі“, з якіх буржуазія наагул здаволена, бо-ж сама іх тварыла.... Трэба з яго зрабіць таго-ж Войцеховскага, якога навет была выбрала польская дэмакратыя разам з меншасьцямі, але які ўсё-ж апынуўся пад поўным уплывам буржуазіі!

З другога боку цікаўнае становішча заняла ў адносінах і да Пілсудскага і да пастаўленае яму ходам падзеяў задачы — польская „дэмакратычная“ інтэлігенцыя,— тая інтэлігэнцыя, тыповым прадстаўніком якое зьяўляецца п. Тугутт. Польскія „дэмакраты“, прадстаўляючы апазыцыю ў адносінах да дыктатуры буржуазіі, аднак-жа справу *выступленьня арміі проці буржуазнага ўраду Вітоса* пераносяць з сфэры сацыяльнае барацьбы ў сфэру *„маральнае рэвалюцыі“*: яны хочуць уціхамірыць народныя масы заменай старых кіраўнікоў дзяржавы, забрудзіўшых свае рукі нячыстымі справамі, на людзей маральна чыстых,—але *ўлады буржуазіі на карысьць працоўных і ня думаюць абмяжоўваць...*

Польская лявіца ў асобах партыяў: ППС, Вызволене, Партыя Працы, Сялянская Партыя—*на славах* заняла прынцыпова становішча, якое павінна было-б давясьці *да стварэньня сялянска-работніцкага ўраду*. Але дзеля гэтага мусіць быць створаны перадусім *адзіны працоўны фронт*, мусяць на гэты фронт пайсьці *ня толькі польскія* работнікі і сяляне, але і працоўныя масы *„меншасьцяў“*. І толькі тады можна спадзявацца перамогі працоўных і зьдзейсьненьня іх сацыяльных, палітычных і нацыянальных ідэалаў.—Вось-жа пэпэсы сваім становішчам разьбіваюць гэны фронт: якраз гэтыя галоўныя павадыры левага блёку ўжо далі рашуча адмоўны адказ камуністам на заклік да адзінага фронту працоўных. Гэтак, імкнучыся на *славах* да работніцка-сялянскае ўлады, пэпэсы *на дзеле* толькі ўзмацавалі той падзел між працоўнымі, які і без таго паглыбіла ўжо пралітая пэпэсамі 1-га мая работніцкая кроў, толькі аслабілі надзею на перамогу працоўных.

Ня будзем паўтараць таго, якое становішча занялі мы і тыя групы, якія стаяць на груньце сялянска-работніцкае ідэалёгіі: цікавыя могуць пазнаёміцца з ім, прачытаўшы папярэдні наш нумар і рэзалюцыю Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Затрымаемся затое на пытаньні: а што-ж думае і чаго хоча той, каму давялося апынуцца ў самым цэнтры падзеяў: *маршалак Пілсудскі*?

У адозьве новага ўраду, падпісанай прэм'ерам Бартлем і марш. Пілсудскім, гаворыцца аб тым, што ўрад *вымагае ад усіх послуху і ляяльнага супрацоўніцтва з ім*, а ўжо *ён, урад*, распачне ўраз-жа—ў межах прыналежных яму правоў — ачышчаньне дзяржаўнага жыцьця ад таго злога, якое туды ўбілася, і выступіць з плянам направы арганізацыі гэтага жыцьця і ўхіленьня дасюлешніх недамаганьняў.... Вось і ўсё, што нам сказаў пан Пілсудскі, але што абсалютна нікому нічога не гавора, — не гавора перадусім аб тым, *з кім-жа хоча і пойдзе далей марш. Пілсудскі*?

Мы стаўляем так гэтае пытаньне, бо-ж ад 12-га мая палажэньне зьмянілася настолькі, актывізацыя масаў пайшла гэтак шыбка ўперад,што цяпер ужо гутарка можа йсьці зусім не аб тым, *хто пойдзе з Пілсудскім* ці *за Пілсудскім*, а аб тым, *з кім ён Пілсудскі, пойдзе* да адбудовы зруйнаванага буржуазіяй жыцьця Польшчы, на якіх элемэнтах краю і народу захоча абаперці сваю ўладу. П. Пілсудскі ўсё яшчэ *стаіць на раздарожжы*, — але кожная гадзіна ўсё больш рашуча вымагае ад яго адказу на гэтае пытаньне. І ад таго, што п. Пілсудскі адкажа на яго, які зробіць выбар, будзе залежаць і яго далейшая гістарычная роля, — ці-то роля *новага Войцеховскага*, ці роля *барацьбіта за працоўны народ і ягонага правадыра*.

## Водгукі перавароту.

У м. Любань, Влацлаўскага пав., 17-га мая сабраўшаяся таўпа дамагалася звальненьня арыштаваных. Зроблена спроба разаружэньня паліцыі. Падасьпеўшы на помач пастарунак з павету „разагнаў дэманстрантаў“, арыштаваўшы каля 10 асоб.

---

У Лэнчнай, любартоўскага пав., таўпа людзей, зьехаўшыхся на кірмаш, кінулася на магістрат і пастарунак паліцыі, ды разагнала іх. На месца высланы атрады войск і паліцыі.

---

Работнікі ў м. Любліне дамагаюцца, як падае „Robotnik“ з 18-га мая, правядзеньня зараз-жа наступнага: адстаўкі ваяводы Маскалевскага, правакуючага насяленьне сваей контррэвалюцыйнай палітыкай, адстаўкі віцэ-ваяводы Брылы, арыштаваньня камандanta паліцыі Пісарскага, каторы разганяў работнікаў, маніфэстуючых на карысьць перавароту, і звальненьня са службы ўсіх чыноўнікаў у Любліне, якія працавалі супольна з фашыстамі.

## „Пазнанская канфэдэрацыя“.

Пасьля варшаўскай „маланкі“ ў Пазнані сабраліся галоўныя сілы польскай рэакцыі, якая ў сваіх газэтах заявіла, як піша „Kur. Poranny“, што яны не прызнаюць — ані адрачэньня Прэзыдэнта Войцеховскага, ані новага ўраду Бартля. Пазнанскія „канфэдэраты“ лічаць адбыты пераварот — „чыстым гвалтам“. Яны кажуць, што, калі шчыра стануць на грунт права і Канстытуцыі, (што быццам зроблена пасьля „маланкі“),—дык трэба адбудаваць цалком усё, што зламана ды пабіта гэтай маланкай: — і „законны ўрад Вітаса“ і законнага прэзыдэнта Войцеховскага. Пазнанцы пішуць, што Войцеховскі пад прынукай адрокся ад улады, што маршалак Ратай—„у няволі ў варшаўскіх вайсковых бунтаўшчыкоў“. Дзеля таго ўсе яго загады, як зробленыя пад прымусам, — незаконныя і няважныя...

Але пазнанскія канфэдэраты ня толькі пішуць у газэтах, але і—дзеюць.

Значная група паслоў і сэнатараў пяцёх правых партыяў з Пазнаншчыны, сабраўшыся пад старшынствам віцэ-маршалкаў Сойму і Сэнату, выдала адозву, у якой заяўле, што „канстытуцыйны заступнік Прэзыдэнта маршалак Ратай папаў пад фізычны прымус ды пазбаўлены магчымасьці свабоднай дэцызіі“. Дзеля таго ўсе яго „загады ня маюць ніякай законнай сілы, дый не абязываюць Пазнані“. А датаго і—„весткі ды афіцыяльныя інфармацыі з сталіцы не заслугоўвуюць даверыя“.

Варшава неяк перастала быць сталіцай для Пазнані.

Гэткай—„аўтаноміяй Пазнані“ пагражае быццам варшаўскім пераможцам „пазнанская канфэдэрацыя“...

Але яны йдуць яшчэ далей у сваім „няпрызнаньні Варшавы“. Яны рашуча заяўляюць, што маршалак Ратай ня можа склікаць Нацыянальнага Збору дзеля выбару новага прэзыдэнта ў Варшаве, бо там — пад пагрозай штыкоў — ня можа быць свабоднага выяўленьня волі і розуму паслоў і сэнатараў польскага народу.

Але, як сцьвярджае „Кур. Поран.“, пазнанскія канфэдэраты йдуць значна далей і гэтага пасыўнага байкоту Варшавы—з пункту гледжаньня „аўтаноміі Пазнані“.

Пазнанскія хадэкі—заклікаюць у сваіх газэтах, каб Пазнань ад байкоту перайшла да актыўнага наступленьня!

Пазнанскія „карфантыя“ пішуць, што „п. Ратай павінен быць безадкладна вызвалены з-пад пагрозы штыкоў“, што „трэба цьвёрда стаяць пры ўрадзе Вітаса — бо яго войскі хутка апануюць Варшаву“.

---

У Пазнані сабраўся ўвесь галоўны штаб польскай рэакцыі. Прыехаў навет экстрэнна з Парыжа сам Раман Дмовскі, які і рэдагуе ўсе адозвы і заявы групы. У Пазнань паехаў і маршалак Сэнату Тромпчыньскі... Паехаў, каб „супакоіць умыслы насяленьня і войска ў Пазнані“ — быццам з умовы ці даручэньня марш. Ратая. Але, прыехаўшы на мейсца, п. Тромпчыньскі, заявіў, як піша „Слово Паморске“, што—„Прэзыдэнт пад прынукай адрокся ад улады, сядзіць інтэрнаваны (пад арыштам) у Спале разам з рэштай ураду, які выйшаў у адстаўку—так сама пад пагрозай гвалту“. Дык дзіва, што „місія марш. Тромпчыньскага не дапяла мэты“,—бо ён „страціў уплыў на палітыкаў пазнанскіх“, як ён сам даносіць у Варшаву...

---

Асобная тэлеграма карэспандэнта „Кур. Поран.“ паведамляе аб чыста ваеннай акцыі пазнанскіх канфэдэратаў-сэпаратыстаў.

На чале ўсей ваеннай акцыі безгаловага „ўраду Вітаса“ ў Пазнані стаіць ведамы манархіст генарал Довбор-Мусьніцкі. Ня менш слаўны „генарал ад рэакцыі“ Юзэф Галер вярбуе ахвотні-

каў—у дапамогу „войску Вітаса“. Яму памагае ген. Рашэвскі.

Дзьве наймацнейшыя ваенныя арганізацыі Пазнані: „Саюз былых паўстанцаў і ваякаў“ і „Зьвязок афіцэраў запасу“—занялі адзін да аднаго варожае становішча.—Першы, спужаўшыся сэпаратыстычнай акцыі пазнанскіх палітыкаў, пагражаючай **аддзяленьнем Пазнані ад Польшчы** (*), заявіў, што перадусім трэба бараніць цэласьць і граніцы Польшчы... Другі—афіцэры запасу цалком далучыліся да канфэдэратаў...

Канчаючы гэты агляд акцыі цікаўнай „пазнанскай канфэдэрацыі“, трэба сьцьвярдзіць усю яе ня толькі палітычную, але, мо‘ і пэўную ваенную вагу і павагу... Барацьба яшчэ ня скончылася ў Польшчы, бо „Маланка“ не забіла польскай рэакцыі...

---

Першым рэзультатам гэтай „канфэдэрацыі“ павінна быць поўная няўдача — Нацыянальнага Збору для выбараў Прэзыдэнта істнуючымі Соймам і Сэнатам. Ані на ўступкі ані на раскол сярод эндэцыі, а мо‘ і наагул сярод абнаглеўшай правіцы разьлічаць ня можна.. Усё гэта можна было прадбачыць згары. Дык ясна, што першым чынам пасьля перавароту павінна было быць—што найменш—распушчэньне абодзьвюх сучасных палат дый назначэньне новых выбараў. — Бо, праўду кажучы, уся гэтая недарэчна-крывавая калатніна магла здарыцца толькі дзеля таго, што ў Польшчы так доўга істнавалі, самі сябе ахоўваючы ды захоўваючы, Сойм і Сэнат, якія даўно страцілі ўсялякі сэнс жыцьця, даўно перастаўшы адпавядаць настрою ды волі народу.

Дык—як ні круці, але прыдзецца таму ці іншаму Маршалку—ці—Сойму ці—Польскай Арміі—актам фактычнай улады—„бяспраўна“ распусьціць абедзьве Палаты, абвясьціўшы—да скліканьня новага Парляманту—тую ці іншую форму дыктатуры.—Бо-ж ні на якую супольную акцыю левая і правая паловы Палат ані паасобна, ані ў Нацыянальным Зборы няздольны.

Дык ясна, што найпрасьцей з гэтага „маланкавага разгону“ абедзьвюх Палат і трэба было пачаць. Бо інакш трэба было-б шукаць... далейшага кампрамісу з „пазнанскімі канфэдэратамі“, якія маюць бясспрэчную большасьць—як у Сойме, так сама і ў Сэнаце...

Толькі-ж ці на гэта пойдуць тыя, што рабілі „пераварот“?!

# Значэньне Бэрлінскага Трактату.

Найлепшым тактычным ходам, як у шахматах, так сама і ў дыпляматыі, зьяўляецца такі, які адразу забясьпечывае выкананьне свайго пляну і—раскрывае ды разваліваe ўвесь плян праціўніка...

Якраз такім мастацкім ходам можа запраўды найлепшага „шахматыста“ сучаснай дыпляматыі—Чычэрына—і зьяўляецца заключэньне Бэрлінскага Трактату.

Перад усім—цікавае параўнаньне: Трактат з ССРР прыняты нямецкім парлямантам **абсалютна аднагалосна**—ад манархістаў да камуністаў! — Так сама аднагалосна ратыфікаваны англійскім парлямантам — Лёкарнскія Трактаты з Нямеччынай. Але — ці Нямеччына адплаціла Англіі такой-жа шчырай адзінадушнасьцяй? — Саўсім не! Лёкарнскія Трактаты прыняты ў Нямеччыне—вельмі нязначнай „урадавай большасьцю“, якой можа-б і не хапіла для ратыфікацыі, калі-б ня стрымаліся ад галасаваньня цэлыя значныя ды ўплывовыя партыі Рэйхстагу...

Вось першая **мера перамогі ў тэй** „барацьбе за Нямеччыну“, у якой даўно так заўзята рывалізавалі між сабой на міжнародавым шахматным турніры Чэмбэрлен і Чычэрын. Ужо з гэтага ясна, што для Нямеччыны Лёкарно — гэта тактычны крок урадавай дыпляматыі, а саюз з ССРР — гэта падстава зразумелай для ўсяго народу дзяржаўнай палітыкі краю... Тэй абмылкі, якая зроблена Нямеччынай перад 1914 г., нямецкі народ больш ня зробіць!

Страшэннае абурэньне проці Нямеччыны, якое ўраганам носіцца, ня спыняючыся, па ўсей заходня-эўрапэйскай прэсе, выклікана перад усім ясным зразуменьнем гэтай „здрады“ Нямеччыны.—Заходнім дзяржавам — пераможцам зрабілася да канца ясным, што, ня гледзячы на ўсе іх „шляхотныя ўступкі“ ды запросіны да „роўнасьці“, Нямеччына будзе весьці з імі толькі „тактычную ігру“, а па сутнасьці — барацьбу, апіраючыся ўсё больш на магутны саюз з ССРР, які дае Нямеччыне запраўдную непераможнасьць. Гэткім чынам—уся тая спрытная сецьць, якую так доўга круціў Чэмбэрлен, каб адцягнуць Нямеччыну ад ССРР, парвалася, як павуціна...

Перакруціў Чэмбэрлен у сакавіку, ня здолеўшы рашуча выбраць паміж Нямеччынай і... Польшчай. Перакруціў і ў красавіку, выпусьціўшы ўжо аканчальна Нямеччыну з сваіх рук...

---

Раскрыла і развaліла лоўкая перамога Чычэрына і ўвесь плян Чэмбэрлена, як павадыра ўсей ваюючай эўрапэйскай буржуазіі. Плян гэты імкнуўся акружыць блёкадай ССРР, ці навет мо‘ і—падрыхтаваць агульны паход проці ССРР.

Ваюючая англійская буржуазія зразумела добра, што без Нямеччыны ўся барацьба проці ССРР—дарэмна. Зразумела, што ані Францыя, ані ўвесь той пояс старых і нова ўтвораных дзяржаваў, які ляжыць між ССРР і Нямеччынай, можа быць выкарыстаны дзеля паходу проці ССРР толькі пад тым варункам, каб ззаду ў іх не апынулая Нямеччына, як прыяцелька ды саюзьніца ССРР!.. І вось—на табе: замест Лёкарно, якое праваліласця ў сакавіку на Агульным Зборы Лігі самым скандальным спосабам,—Саюз Нямецкай Тэхнікі з Расейскай Рэвалюцыяй—найстрашнейшая змора сусьветный буржуазіі—запраўднае „чырвонае яечка“ ўсім Чэмбэрленам на Сьвята!...

Абурэньне заходняй прэсы проці нямецкарадавага саюзу толькі падчырківаe запраўдны зьмест Лёкарнскіх Трактатаў, як скіраваных выразна проці ССРР. Нямеччына і тады, у Лёкарно, атрымала пэўныя палёгкі ў тасаваньні арт. 16 Статуту Лігі, які па сутнасьці абязываў-бы яе прыняць учасьце ў паходзе ці ў блёкадзе проці ССРР—на выпадак вайны. А цяпер, — у выніку Бэрлінскага Трактату—з Лёкарно выкідаецца цалком увесь гэты арыкул, ці — **выпадае з „Лёкарно“ ўвесь „лёкарнскі дух“, увёсь зьмест і сэнс усяго Трактату**... Цяпер, з Нямеччынай можна ўмаўляцца, ці змаўляцца аб чым хочаш, толькі — **не аб змове проці ССРР!**.. — Дык ня дзіва, што ўсе „лёкарнцы“ аж равуць са злосьці...

І гэты запраўды-ж супярэчны зьмест абодвух трактатаў вельмі дасьціпна адзначыў Літвінов на апошнім паседжаньні Цэнтральн. Выкан. Камітэту ССРР. З забойчай іроніяй ён казаў, што справа—ці пярэчыць Бэрлінскі Трактат Лёкарно? — гэта справа не ССРР, але—Нямеччыны, бо-ж яна, але не ССРР, падпісала Лёкарнскі Трактат. Для ССРР справа толькі — ў тым, які з абодвух Трактатаў **пярэчыць агульнаму міру**. Калі **чыста абаронны** Бэрлінскі Трактат пярэчыць міру, як гэта піша ўся заходняя буржуазная прэса (апроч нямецкай), Трактату Лёкарнскаму, значыць запраўды-ж той мае **зачэпны зьмест** ды рыхтуе нейкі „блёк проці ССРР“, ці яе адасобненьне... **Але-ж гэтага** неяк ня кажа англа-французская прэса: наадварот, гэта яна ўкрывае... Дык ляпей аб „супярэчнасьці“ Трактатаў гэтай прэсе памаўчаць!

---

Гэтак, далейшым вынікам Бэрлінскага Трактату, пазбавіўшага Лёкарнскі Трактат запраўднага **процірадавага „духу Лёкарно“**, зьяўляецца **разьбіцьцё ўсей „лёкарнскай групы дзяржаў“**,—бо яна, трацячы, як актыўнага сябра, Нямеччыну, траціць увесь запраўдны сэнс свайго істнаваньня.... А яшчэ ў далейшым крах „Лёкарно“ ня можа не адбіцца такім-жа фатальным рэзультатам і **на самай Лізе Народаў**, у якой група „лёкарнскіх дзяржаў“ мела быць, па думцы Чэмбэрлена, галоўным ядром дый іграць рашаючую ролю. І зусім зразумела, што шляхам далейшай кампрамітацыі дый развалу гэтай штучна створанай пераможцамі—выключна ў мэтах падтрыманьня і захаваньня ўсіх рэзультатаў сваей перамогі, усіх недарэчнасьцяў ды гвалтаў,—штучна створанай ды пакроенай азброенымі вар‘ятамі і ліхвярамі ў Вэрсалі Эўропы — і пойдзе далейшы ход падзей. У тым-жа напрамку, дый ня толькі нэгатыўна-разьбіваючы Лігу,—але і пазытыўна—**творачы замест яе больш жыцьцяздольныя саюзы і паразуменьні** — ідзе і ўся далейшая, зьвязанная з Бэрлінскім Трактатам, палітыка Чычэрына. Гэты практычны падзел роляў — на разбураючую і творчую—вельмі добра выяўляецца — з аднаго боку — у толькі што разасланай адозьве Комінтэрну проці Лігі Народаў, і — з другога боку—у дыпляматычнай акцыі ды заявах Чычэрына і яго бліжэйшых супрацоўнікаў — Раковскага і Літвінова.

Усе гэтыя адказныя кіраўнікі радавай палітыкі заявілі, што паводле ўзору Бэрлінскага ці Турэцка-расейскага Трактатаў Радавы ўрад запрапануе дагаворы цэламу раду сумежных з ССРР дзяржаў, якія-ж пэўна-ж будуць гарантаваць тых, якія запраўды жыцьцяздольныя, іх нятыкальнасьць і іх жыцьцёвыя інтарэсы—лепш, як „лёкарнскія пігулькі ад зямлятрасеньня“, ці — Ліга Народаў. Бо-ж гэтыя—кіруюцца толькі інтарэсамі „вялікіх“, а перад усім—Англіі. Трэба толькі, каб усе гэтыя дзяржавы перасталі служыць прыладай ці лялькай у руках Чэмбэрлена, але памяталі толькі і выключна—аб **сваіх уласных інтарэсах**.

---

Бэрлінскі Трактат між ССРР і Нямеччынай можа служыць запраўды-ж клясычным прыкладам **вольнага, сьведамага—карыснага—саюзу дзяржаваў**, прынятага аднагалосна ўсім народам,—саюзу дзеля таго—запраўды **выключаючага між гэтымі народамі ўсялякую магчымасьць варожасьці ці вайны**... — Проціродавай Эўропе Бэрлінскі Трактат паказаў ясна, што ўсялякія спробы лёкарнскага ці жэнэўскага **„міру проці ССРР“** — гэта недарэчнасьць; што гэтыя дрэнныя спробы могуць выклікаць новую вайну. **Усім суседзям ССРР** — у поясе між ім і Нямеччынай—гэты Трактат **паказаў тыя рэальныя геаграфічныя, эканамічныя і палітычныя рамкі і межы**, у якіх яны найляпей могуць **здаваляць свае жыцьцёвыя інтарэсы**,—паказаў і—шлях і ўзор **паразуменьня з ССРР**, наймацней гарантуючы мір і на Усходзе Эўропы... **Н.**

---

**Хочаце паправіць дабрабыт сваей газэты „Беларуская Справа“, дык бездакладна зьвярніце ёй доўг, калі хто не заплаціў яшчэ!**

---

# Буржуазія аб П. П. С.

Ужо агульна вядома, што Работніцкая Партыя, якую хваліць буржуазія, — нічога ня варта. Або, або... Або яна бароніць інтарэсы работнікаў, і тады буржуазія паднімаець проці яе шалёную траўлю, або яна здаваляе буржуазію, але... работніцкія інтарэсы прадае.

Вось як піша буржуазны „Кур‘ер Варшаўскі“ аб П. П. С.:

„У бягучым годзе ўрад п. Скшыньскага прыйшоў да пераканаьня, што ў дзень першага мая польскай дзяржаўнасьці трэба даць перадышку, а функцыі ўлады аддаць „баёўкам“ П. П. С.

Баёўкам далі грузавыя аўтамабілі, партыя ўзброіла іх рэвольвэрамі, і ўрад сказаў ім: „на гэты дзень ты будзеш сэнсам дзяржаўных законаў і іх спаўняючым органам“.

P. P. S., польскі аддзел другога інтэрнацыяналу, распраўлялася ў дзень 1 мая з комуністычным пераваротам. П. П. С. ваявала проці клічаў: „Няхай жыве савецкі лад у Польшчы“ і „Вон з Польшчай“ (?!).

Ужо гэта павярнула да П. П. С. сэрцы ўсіх тых, хто ў грамадзкіх справах кіруецца пачуцьцём, а ня розумам. „Аднак яны маладцы“, „Аднак гэта партыя ўмее даваць сабе раду“... І можна быць пэўным, што **восем папярэдніх гадоў працы П. П. С. ня збудзілі ў грамадзянстве гэтакіх цёплых пачуцьцяў, як гэты адзін дзень**.

У сьвятле 1-га мая 1926 г. выглядае нонсэнсам працэс проці арганізатараў кракаўскіх замешак у лістападзе 1924 г.

За што судзілі якуюсь „баёўку“, калі другі раз аддаём ей атрыбуты ўлады“.

---

З свайго боку можам толькі павіншаваць П. П. С... „цёплых пачуцьцяў“ з боку эксплёататараў.

---

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Аб Нацыянальным Зборы для выбару Прэзыдэнта.

Нацыянальны Збор (супольнае паседжаньне Сойму і Сэнату) назначаны на 29 мая.

Як ведама, закон 27 га ліпня 1922 г., рэгулюючы парадак працы Нацыянальнага Збору, трэбуе, каб маршалак Сойму прынамся за тыдзень папярэдзіў усіх сяброў заканадаўчых палат аб тэрміне Збору. Для правамоцнасьці пастановаў Нацыянальнага Збору патрэбна прысутнасьць прынамся паловы ўсіх яго сяброў (палова ўсей лічбы сяброў Сойму і Сэнату разам). Калі гэткага кворуму не зьбярэцца, тады старшыня Збору (марш. Сойму) адкладае Збор, але не далей, як на тры тыдні.

Газэты пішуць, што ў канцы траўня мае адбыцца першая спроба выбару Прэзыдэнта. Ці зьбярэцца на гэта патрэбны кворум, можна сумлявацца.

Справай падрыхтаваньня выбараў Прэзыдэнта асбліва заняліся пэпээсы. Яны быццам наладзілі тайную нараду партыяў лявіцы з нацыянальнымі меншасьцямі, без якіх, як ясна, ня можа навет адбыцца правамоцны Збор. Пэпээсы і іншая польская лявіца хацелі выясьніць сабе, на якую лічбу прыхільных галасоў яны могуць спадзявацца, і пыталіся ў беларусаў і ўкраінцаў адказу на 2 пытаньні: 1) Ці славянскія меншасьці падтрымаюць кандыдата польскай лявіцы; 2) Ці пойдуць разам з лявіцай у выбарах у Сойм і Сэнат?

Славянскія меншасьці быццам адказалі на гэта слушным дамаганьне сьпярша — даведацца станоўча: хто будзе кандыдатам лявіцы ў Прэзыдэнты і — якая будзе яго праграма? Таксама, што да супольнай акцыі на выбарах, дык трэба перадусім установіць супольную плятформу.

Атрымаўшы гэткі слушны адказ ад славянскіх меншасьцяў, пэпээсы зьвярнуліся з тымі-ж запытаньнямі і прапазіцыямі да—неславянскіх: да жыдоў і немцаў, з якімі наагул, як польскай лявіцы, так і правіцы, размаўляць неяк лягчэй.

Відаць, аднак, спадзяваньні пэпээсаў на перамогу ў Нацыян. Зборы ня дужа вясёлыя, бо, як піша „Наш Пшэглёнд“, яны праектуюць зусім цяпер не сазываць Нацыян. Сабраньня, а распусьціць Сойм і Сэнат, ды перадусім зрабіць новыя выбары...

### Выкрыцьце „ўкраінскага паўстаньня“.

Львоўская паліцыя раптам выкрыла падрыхтаванае—якраз у часе варшаўскіх падзей — „украінскае паўстаньне“. Арыштавалі шмат людзей, належачых быццам да „баявой арганізацыі“, сканфіскавалі шмат кампрамітуючых дакумэнтаў.

Устаноўлена быццам, што гэтая арганізацыя ў апошнія дні выдзяліла аддзелы „спэцыяльнага назначэньня“—дзеля захвату розных установаў ў краі.

Былі арыштаваны і два ўкраінскія паслы — Пашчук і Скрыпа ды яны па загаду новага ўраду ўжо звольнены.

## Заграніцай.

### Водгук польскіх падзей у Нямеччыне.

„Варшавянка“ зьмяшчае тэлеграму з Бэрліну такога зьместу:

15-16 траўня ў Бэрліне адбыўся зьезд нямецкіх патрыятычных арганізацыяў з усей Верх-

*) Вось на што ідуць раззлаваныя эндэкі.

няй Сілезіі. Зьезд, разглядзеўшы апошнія выпадкі ў Польшчы, апрацаваў і выслаў да Лігі Народаў гэткую рэзалюцыю:

„Зьезд усіх саюзаў, верных Бацькаўшчыне, у Верхняй Сілезіі, сабраўшыся ў Бэрліне, з учасьцем паслоў Верхн. Сілезіі і ўсей Нямеччыны, пратэстуе яшчэ раз проці разрэзу краю дэкрэтам Рады Паслоў (Антанты) 26 кастрычніка 1921 г. і трэбуе звароту ўсходняй (польскай) паловы краю— Нямеччыне.

„Апошнія выпадкі ў Польшчы, дый наагул упадак гаспадарчага жыцьця ў польскай частцы Сілезіі, даводзяць, што Польшча ня здольна кіраваць гэтым нямецкім абшарам“... У канцы зьезд дамагаецца ад Лігі, каб яна змусіла Польшчу — безадкладна звольніць усіх арыштаваных сяброў нямецкага „Народнага Саюзу“, арыштаваных у зьвязку з рознымі „працэсамі аб шпіёнстве“.

У зьездзе прымалі ўчасьце, апрача паслоў Рэйхстагу, найвышэйшыя ўрадоўцы дзяржавы.

### Забастоўка ў Англіі.

Агульная забастоўка пакуль-што спынена. Работнікі транспарту і іншых фахаў — вярнуліся да працы. Вуглякопы бастуюць да часу аканчальнага абгавораньня варункаў кампрамісу.

Цэнтраля польскіх вуглякопаў атрымала на днях паведамленьне ад сэкрэтара інтэрнацыяналу, каб вываз вугля ў Англію далей ня быў дапушчаны.

Цікава, што інфармацыі, падаваныя прадажнай прэсай аб адмове англійскіх работнікаў ад грашавой помачы, высланай радавымі праф. саюзамі,—аказаліся фальшывымі. Ангельскія вуглякопы як раз просяць аб хутчэйшым даручаньні гэтых грошай.

### Амэрыка памагла англійскай валюце ў час забастоўкі.

Старшыня Фэдэральнага Банка Злучаных Штатаў Амэрыкі заявіў у Парыжу журналістам, што Банк даў у часе забастоўкі Англійскаму Банку 500 мільёнаў даляраў — для падтрыманьня англійскай валюты.

Галава Амэрыканскага Банку прыехаў у Парыж, быццам каб дапамагчы і французкай буржуазіі замацаваць валюту...

Зразумела, відаць, добра амэрыканская буржуазія, чым пагражала-б і ёй—паражэньне яе таварышоў у Англіі ды Францыі.

### Магчымасьць забастоўкі вуглякопаў у Францыі.

Рада францускіх вуглякопаў лічыць, што ў выпадку, калі-б дамаганьні работнікаў аб падвышцы платы ня былі прыняты пад увагу, — ад 25 г. м. распачнецца ў Францыі забастоўка вуглякопаў.

### Новы ўрад у Нямеччыне.

Пасьля няўдачы п. Адэнаўэра, Гіндэнбург даручыў стварэньне ўраду быломў прэм'еру Марксу, які хутка здалеў выканаць задачу. 18 траўня габінэт ужо стаяў перад Рэйхстагам і атрымаў даверые значнай большасьці Палаты. Проці ўраду галасавалі толькі абодва крайнія флангі: камуністы ды гітлераўцы. Нямецкія нацыяналісты ўстрымаліся ад галасаваньня. Сацыялісты, Цэнтр, дэмакраты і людоўцы—вось новая большасьць, падтрымліваючая актыўна ўрад.

У сваей вельмі цікаўнай дэклярацыі новы ўрад заявіў, што будзе прадаўжаць замежную палітыку папярэдняга габінэту, што пастараецца на карысьць Нямеччыны правясьці ўваход Нямеччыны ў склад Лігі ды рэарганізацыю яе Рады; што правядзе праз Парлямант Бэрлінскі Трактат (з СССР); што правядзе ўсенароднае галасаваньне аб адшкадаваньні былым „манархам“ Нямеччыны за канфіскаваныя маёнткі; што апрацуе — паводле думкі прэз. Гіндэнбурга — калёры адзінага дзяржаўнага сьцягу Нямеччыны, а пакуль-што пакіне загад Гіндэнбурга—у сіле...

### Рыффэны ізноў б'юць гішпанцаў.

З Парыжу паведамляюць, быццам злучаныя сілы гішпанцаў і французаў пасьпешна пачалі наступленьне. Але—з Лёндану пішуць зусім нешта іншае.—Англійскія крыніцы, наадварот, даносяць, што становішча францускa-гішпанскай арміі —значна пагоршылася. Асабліва дрэнна стаяць справы гішпанцаў... Залішне спадзяючыся на „пакорныя“ плямёны, гішпанцы „загаляпаваліся“ ўпярод, аж раптам ззаду ў іх выбухла паўстаньне сярод гэтых плямёнаў, зарганізаванае агентамі Абд-Эль Крыма... Зразумела, што адначасна з выбухам паўстаньня Абд-Эль Крым моцна ўдэрыў па гішпанскай арміі, якая амаль ня пусьцілася ўцякаць. Страты гішпанцаў—вельмі значныя, як у людзях, таксама і ў баявым матэр'яле. Цэлы рад местаў распачаў эвакуацыю.

Рота „заграмічнай легіі“, зложаная з рускіх белагвардзейцаў і розных турыстаў іншай нацыянальнасьці амаль што цэлая выгублена, рэшткі папалі ў палон.

Адкінўшы ганебныя варункі міру, або лепш кажучы варункі паняволеньня, рыфэны, хоць і абяскроўленыя няроўнай барацьбой, адважна і цьвёрда прадаўжаюць бараніцца.

### Бaі між магамэтанамі і індусамі ў Індыі.

Спрытна правакаваная англійскай уладай „рэлігійная“ барацьба між мусульманамі і буддыстамі ў Індыі, абяскроўліваючая — на карысьць жываедаў-чужаземцаў—як адных, так і другіх, — ня спыняецца. Што-дня рэгіструецца шмат забітых і раненых з абодвух бакоў па ўсім краю. — Дык—ці-ж можа быць лепшы доказ патрэбы англійскай паліцыі ды войска ў Індыі?!...

## ХРОНІКА.

**Цікавае распараджэньне.** Ваяводзкая ўлада даручыла падлягаючым ей урадам 1-ай інстанцыі —пацягнуць да адказнасьці тых рэзэрвістаў, каторыя ня мэльдуюць аб зьмене свайго месца пабыту.

**Дамаганьне перавыбараў віленскае мястовае рады.** Канфэрэнцыя прадстаўнікоў усіх управ ў прафэсыянальных саюзаў вынясьлі пастанову аб неабходнасьці роспуску мястовае рады ў Вільні і назначэньня новага складу магістрату.

**У прафсаюзах.** Прафэсіянальны саюз мястовых служачых у Вільні паставіў на абгаворавьня пытаньне аб неабходнасьці дабівацца пазычкі ў суме 30—50 процантаў атрымліваных пэнсіяў.

Прафэсіянальны саюз гарбароў вынес пастанову аб дамаганьні падвышэньня зараб. платы на 30 проц.

**Эндэцкі „журналіст“.** У обстаўскай газэце „Dziennik Wileński“ і вулічным лістку „Express“ займаецца фабрыкаваньнем розных брахлівых вестак аб беларусах нейкі пан Юзэф Лесевскі. Гэны самы „пан Юзэф“ выступае з публічнымі „патрыатычнымі“ лекцыямі ў эндэцкіх „колах“, каб „умаральняць“ цёмных людзей...

Вось-жа ў нашу рэдакцыю дастаўлены цікаўны дакумэньцік, які найлепш паказуе, якога сорту „патрыоты“ прыяжджаюць да нас дзеля „працы нарадовай“ з Польшчы. Дакумэнт гэты— ня больш і ня менш, як копія акту абвінавачаньня проці „пана Юзэфа“, які за розныя машэнствы і крадзежы ў Замойскім Каапэратыўным Спажывецкім Таварыстве быў засуджаны акружным судом у Замосьці 20/X. 1924 году на тры месяцы ў вастрог — паводле арт. 573 ч. 1 і арт. 53 К. К. Прыгавор з матывамі абвешчаны 3/XI. 1924 г.

Вось дык „спэцыяліст“!!!

**Цэны ў Вільні. Рынковыя цэны за (100 кілгр.).** Жыта 37.00—33.00; пшаніца 42.00—40.00; ячмень 37.00—33; авёс 40.00—38.00; грэчка 36.00—33.00; жытнія вотрубі 26.00—25.00; жытняя мука (1 кілёграм) 0,39—0,37; ячменная друца 0.75—0.60; сьвежая саланіна 4.00—3.50; саланіна салёная 4.60—3.80; бульба (100 кілаграм) 15—13; цукар пясок 1.40; цукар рафінад 1.75—1.50; белая соль (1 кілёгр.) 0.33—0.30.

**Афіцыяльны курс грошы на 21 траўня.** Даляр— 11 зл. 10 гр. Залаты рубель — 5 зл. 70 грошы.

20. V. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 11,90.

## Карэспандэнцыі.

### Паўслухайцеся браткі — ёсьць аб чым паслухаць.

(М. Любча, Наваградзкага павету).

Любча пабудавана на левым беразе Нёмана і ад бліжэйшай чыгункі знаходзіцца на працягу 42 вёрст. Падчас вайны ўшчэнт была зьнішчана і жыхары, вярнуўшыся з Расеі, засталі замест сваіх будынкаў—зямлянкі, акопы, дрот і быльнік. Жыхарства складаецца з жыдоў і беларусаў. Жыды пабудаваліся хутка, бо ім дапамог Нюёрк, а вось нашаму селяніну, дык дасталось вельмі дрэнна, і толькі шляхам надзвычайна цяжкіх высілкаў, у рэшце неяк выкарабкаліся з зямлянак, нацярпеўшысь холаду і голаду. Дапамогі ад ураду амаль што зусім ня мелі і толькі лічаныя асобы з усяго жыхарства атрымалі па некалькі мэтраў дзерава, дастаючы якія давялося стаптаць не адны лапці, ходзячы да Наваградка. Як да вайны, так і цяпер жыхарства адчувае недахват зямлі. На адным панадворку месьціцца па 4, а то і 6 хат, зьбіўшысь у адну кучу, як кажа наш слаўны пясьняр Якуб Колас: „як авечкі ў летні жар“...

Наабапал мястэчка, як бы павукі сваю афяру, агарнулі яго два вялікія абшарніцкія двары, да якіх належаць самыя лепшыя сенажаці, пашы, лясы і лепшая зямля, якую нашы бацькі, дзяды і прадзяды палівалі потам і крывёю працуючы на паноў і ня раз атрымліваючы ад іх па „дваццаць пяць гарачых“... Адчуваючы зямельны голад, селянін мусіць ісьці на заработкі да абшарніка, ці браць у яго ў варэнду кавалак зямлі, якую ён можа ахвотна і прадаць селяніну па „невялікай цане“—усяго толькі па 240 даляраў за дзесяціну. Свае ўласнае зямлі, селянін мае столькі, што калі паставіць запрэжанага каня папярок паласы, дык воз стане на суседняй. Нашаму цёмнаму беднаму селяніну дасталісь, як запраўды кажа вядомы беларускі пясьняр Янка Купала: „Горы да каменьні, вузкія палоскі“...

За Нёманам на краявідзе цёмнай сьцяной стаіць лес, які таксама належыць да двароў. Гэты лес займае некалькі сотняў дзесяцін, але крый Божа, калі селянін зьнячэўку высяча там галіну,— адразу пратакол, штраф, або загоняць яго, куды Макар і цялят не ганяў... А калі чыя сьвіньня, ці другая жывёліна зыйдзе на панскую землю, дык пан упраўляючы дваром не разбіраючысь страляе ў яе з ружжа, а калі займе ў хлеў, дык не апláцішся.

Вось як жывецца нашым любчанам.

У мінулым годзе сяляне злажылі дэклярацыі на беларускую школу, але дзякуючы „энэргічнай працы“ кіраўніка польскае школы — маскаля (— „праваслаўнага-паляка“) Воропаева, школы белар. ня давялося і пабачыць. На вялікі жаль, да гэтага ня мала памаглі і „свае“ „тоже бѣлоруссы“ і іншыя цёмныя людзі, якія складалі дэклярацыі на польскую школу. Не дапамог нам у гэтым навет і наш беларускі пасол Рагуля (з „Сялянскага Саюзу“), радзіма якога знаходзіцца ўсяго ў адной вярсьце ад Любчы.

Есьць у нашым мястэчку шмат былых вучыцялёў-узгадавальнікаў царскай школы. Яны маглі-бы шмат чаго карыснага зрабіць для нашага сялянства, выпісваючы газэты і кніжкі, ставячы спэктаклі і наагул пашыраючы асьвету ў роднай мове пасярод несьвядомых. Але на жаль, замест гэтага, яны займаюцца ў вольны час ігрой у карты—у прафэранса, у вінт, або каратаюць час за чаркай гарэлкі!..

Як маланка з неба, папала да нас газэта „Сялянская Ніва“, орган Тымчасовага Беларускага Саюзу. Але тут ад імя „Саюзу“ выступаюць людзі, якія вельмі далёкія ад беларускасьці, прамаўляюць парасейску, ды зусім ня маюць нічога супольнага з беларускім рухам і яго ідэалёгіяй. Дык мы можам з пераканаьнем сказаць, што гэткі „Саюз“ разьляціцца, як дым, і не спаткае сярод нашага сялянства прыхільнасьці.

Быў у нас троха раней „ацец духоўны“ Павел Сасіноўскі, які беларускую мову называў „мужыцкай“ і браў за „трэбы“, колькі хацеў сам, кажучы: „я ня жыд, таргавацца ня люблю“...

Сялянства наша з вялікімі высілкамі „благаславіла“ яму шлях з Любчы. Цяпер маем айца Вячаслава, які таксама і ня думае гаварыць у царкве казаньняў на роднай для сялян мове. Свае казаньні ён гаварыць не лянуецца, але што карысьці ў тым, бо людзі яго не разумеюць. „Высокая мораль, великая истина, боголѣпіе храма“... вось якімі славамі фарбуюцца яго казаньні. Нашы бабы, выйшаўшы з царквы, кажуць: „хораша і доўга гаворыць наш бацюшка, але ня ведама што і аб чым“...

За „трэбы“ ён таксама не сароміцца браць: зьвянчацца хочаш—25 зл., пахаваць памёршага— бязмалага толькі сама, дзіця ахрысьціць—3 злоты і г. д. хоць ня хрысьціся, ні вянчайся і не памірай, бо адкуль-жа возьме селянін, жывучы на восьмай часьці дзесяціны, гэткія грошы, а то ў другога й гэтулькі няма, у той час як да прыходу належыць 42 дзесяціны царкоўнай зямлі, у поўным распараджэньні бацюшкі і псаломшчыка. Нуда і цемра пануюць у нас! З аднаго боку полёнафільства, а з другога—русафільства, а селянін наш скрабе патыліцу, кажучы: „Жыцьцё, жыцьцё! калі ты пагоршаеш!“...

Вось што і як у нас і каля нас!

Зоркі.

### З жыцьця беларусаў.

(В. Лаўрыновічы, Ваўкавыскага пав.).

Маючы пільныя справы, неяк зайшоў я ў гміну, а там — войт гміны завёў са мною гутарку на палітычную тэму, дый, пагутарыўшы, пытаецца ў мяне.

Ці пан мае савецкія газэты?

— Дзе там,—адказваю я, — адкуль я іх магу мець.

— А ці будзе, пан, чытаць? Ізноў пытаецца войт.

— Што-ж,—адказваю я—чытаць, дык я магу.

Пакуль што гэта—ўсё.

У той-жа самы дзень атрымаў я беларускую газэту і, калі выйшаў з гміны, дык якраз спаткаў знаёмых і з імі я падзяліўся газэтнымі навінамі...

Ажно, за некалькі дзён па тым, выпала здарэньне, як грымоты з яснага неба... бо, атрымаў я загад, зьявіцца на паліцэйскі пастарунак, а там?! пратаколы за два грахі і баста!.. Ці-ж ня праступкі?! Але... два грахі, дык чакай—дзьве кары.

---

Даведаўшыся аб „языковых уставах і рупячыся аб лёсе роднай школы, пачаў з сяму-таму гаварыць аб складаньні дэклярацыяў на беларускую школу, але аб гэтай „працівапанствовай акцыі“ даведаўся наш польскі вучыцель, дык цераз гэта зьявілася да мяне на кватэру паліцыя і „zbadała“ і зноў... кары за агітацыю аб беларускай школе.

Аб гэтым, я напісаў пару строчак у беларускую газэту, а калі даведаўся аб тым вучыцель, дык ізноў зажадала паліцыя бачыць мяне на пастарунку і... зноў кара.

Хоць існуюць у нас розныя ўрадовыя ўстановы, але каб чалавек хацеў паскардзіцца, дык няма куды...

Вучыцель, ня маючы адпаведных кваліфікацыяў, вучыў „добра“ нашых дзяцей, ды за тое сабе за час службы збудаваў хату і гумно ды купіў кавалак сенажацьці, бо атрымліваў пэнсію на сябе і сям'ю. Маючы 20 дзесяцін ўласнай зямлі,— быў звольнены, а на яго мейсца прыехаў з Галіцыі новы „пан“... з новым „панам“, дык і новыя справы!.. Новенькія, сьвежанькія!.. галілейскія!..

Новы вучыцель шчыранька ўзяўся за „работу“, але навука на чужой мове ня лезе ў галовы дзяцям дзеля сваей незразумеласьці.

Вучыцель ад злосьці да таго дайшоў, што пачаў выганяць дзяцей са школы на мароз. Пры гэтым, дзеці стаяць на марозе датуль, пакуль вытрываюць, а пасьля, калі ўжо стане немагчыма—уцякаюць дамоў, а па тым?—хварэлі.

Падобны скандальны і дзікі выпадак здарыў-

ся з маім братам, пасьля чаго я пачаў яго вучыць пабеларуску, а на вучыцеля падаў у гмінны школьны надзор скаргу; а калі прыйшло да разгляду справы, дык я астаўся вінаватым. Вінавацілі мяне ў тым, што я не пасылаў хлапца ў школу, але на гэтым справа ня кончылася, бо з гэтага вырасла „падпольная“ беларуская школа, з ліквідацыяй якое, паліцыя мела вялікі клопат, бо праз цэлы дзень паліцэйскія хадзілі па вёсцы і распытывалі і сустрэчнага і папярэчнага аб новай школе, а некалькі чалавек з жыхароў нашай вёскі, дык прызывалі на пастарунак. Аке пакуль-што справа ў „toku“.

А вучыцель?.. хоць-б што!..

Дык вось, як у нас—войт, вучыцель, школьны надзор і паліцыя—адно й тое самае. Усе „вучаць“ і „апякуюцца“.

**Сьцяпан Макаравага шчасьця.**

## Як мы сьвяткавалі.

(В. Кайшоўкі, Цырынскай гм., Навагрудзк. пав.).

Маёнтак Кайшоўкі распарцэляваны паміж асаднікамі—панскімі сынкамі і рознымі іншымі панічамі, як інжэнер Мясьнікоўскі, палкоўнік Квасьневецкі, доктар Рыбніцкі і інш. — усяго іх 12 чалавек на 400 дзесяцін зямлі.—А ў нас кругом сяляне беззямельныя і малазямельныя,—і ніхто з іх ані палоскі не дастаў.—Панкі—дык і гаспадарыць ня хочуць.—Гаспадарэць у ім розныя паўнамоцнікі.

Усе гэтыя асаднікі-каталікі, дык сьвяткавалі свой Вялікдзень раней, але, відаць, і на наш хацелі выпіць. Каб мець грошы, яны зрабілі гэткую „штучку“. Уночы з 30/IV на 1/V прапаў у іх авес, відаць, самі выцягнулі яны са сьвірна ў салому 17 пудоў аўса, а пасьля паднялі страляніну, сымулюючы гэтым напад бандытаў.

Галоўны майстар гэтакіх штук — Станіслаў Базан, ды ўпраўляючы ў маёнтку.

Заявілі яны Варончанскаму паліцэйскаму пастарунку,—што гэта работа Кайшоўцаў. У Вялікую Суботу назьяжджалася цэлая хмара паліцыі з Варончацкага пастарунку і Цырынскага — і мундзірнай і сыскной і з сыскной сабакаю;—усюды снуюць, сачаць! Думалі мы, што гэта таму, што першы мая,—а нашую вёску лічаць бальшавіцкаю, дык як-бы гэтак і трэба было...

Людзі йдуць перад першым днём Вялікадня на Усеначную, а паліцыя чагосьці сьцеражэ. На першы дзень—не пасьпелі яшчэ разгавецца яечкам, як паліцыя загадала ўсім узрослым выйсьці на вуліцу, каб шукаць віноўнікаў.—Пусьцілі сыскную сабаку, каб знайшла вінавайцу,—сабака не знайшла.

Тады знайшоўся лепшы за сабаку—Станіслаў Базан.—Ен выбраў 20 чалавек, якія яму чымсьці не дагадзілі ў працягу 3-хгадовага яго жыцьця ў гэтым маёнтку, і, выбраўшы, сказаў паліцы забраць іх. Забралі іх і адаслалі ў маёнтак Кайшоўкі, дзе рабілі „badanie“, пагражалі і абзывалі іх камуністамі. Не знайшоўшы віны, усіх іх адпусьцілі дамоў; толькі затрымалі хворага ва вар'ятства Паўлу Будзейко—вельмі ціхага і спакойнага хлапца. Відаць, думаючы, што той, як хворы, скажа, хто ў Кайшоўках камуніст.—Адаслалі яго ў Навагрудак, а што далей будзе—Бог ведае!

Вось, як мы сьвяткавалі першы мая і Вялікдзень—дзень радасьці і вясельля сьвяткавалі са сьлязамі і пракляцьцямі ў грудзёх.

**Антон Гарамыка.**

## Сарваны спэктакль.

(М. Мір, Стаўпецкага пав.).

У суботу, 8-га траўня, г. г. меўся адбыцца ў м. Міры, беларускі спэктакль. Меліся ставіць дзьве п'ескі: 1) „На вёсцы. Ф. Аляхновіча і 2) „П.С.Х.“, Сучаснага. На адыграньне гэтых п'ес дасталі дазвол ад Стаўпецкага старасты.

З прычыны дрэннае пагоды (блізу ўвесь дзень 8-га траўня йшоў дождж, які ня спыніўся і вечарам) парашылі адкласьці спэктакль на нядзелю 9-га траўня, на што камандант мірскага пастарунку даў сваю згоду.

Але нейкі нешчасьлівы лёс перасьледаваў наш спэктакль: у суботу пашкодзіў дождж, а ў нядзелю той-жа п. камандант!..

Адыгралі толькі першую п'есу „На вёсцы“, а „П.С.Х.“ камандант забараніў іграць. Прычыну свае забароны п. камандант тлумачыў тым, што п'еса „На вёсцы“ йгралася па-над праграму, ды што ў ёй няма быццам таго, што гаварылася са сцэны. Так, у п'есе напісана: „будзем пяяць сваю родную песьню.... насіць сваю родную вопратку....“ і г. д. і г. д., а са сцэны было сказана: „будзем пяяць сваю родную, **беларускую** песьню.... насіць сваю родную, **беларускую** вопратку“ і г. д.

Гэтае слова „беларускую“ так настрашыла каманданта, што ён забараніў і іграць „П.С.Х.“, угледзіўшы, што там маюць выступаць чырвонаармейцы і кітайцы—з чырвонымі зоркамі...

Тут ужо не памаглі ніякія просьбы, ні доказы таго, што ў п'есе, якая пасылалася ў староства на цэнзуру і ставіць якую староста даў дазвол, напісана чорным на белым, што чырвонаармеец і кітаец уходзяць з нашытымі зоркамі. І навет згода артыстаў зьняць гэтыя „праступныя“ адзнакі і іграць бяз іх не памаглі: камандант стаяў на сваім, і спэктакль так і астаўся на палавіну адыграным.

Арганізатары гэтага спэктаклю мусілі з болью ў сэрцы разыйсьціся па хатам. Шкада было, што палажана было шмат працы, пакуль падгатавалі гэты спэктакль, было перанесена і пэражыта шмат няпрыемнасьцей, як звонку так і ўнутры сябе. Але ўсё гэта перамаглі арганізатары спэктаклю, каб дабіцца свае мэты, і ў той час, як ужо было ўсё пераможана, неўмалімае veto (не пазволю) каманданта мірскага пастарунку разьбіла ўсё.

Блізу ўсе прысутныя былі абураны гэтаю забаронаю каманданта, але што яму зробіш?

**Прысутны.**

## Каго пільнавалі.

(З Стаўпецкага пав.).

У ноч з 31./IV. на 1./V. па ўсім пагранічны была вялікая „рухаўка“ — конныя і пешыя патрулі аб'яжджалі двары, дарогі і лясы, аглядаючы ці ўсё „ў парадку“. Здавалася, што нічога не ўцячэ ад іх вока — і, відаць, фактычна не ўцякала.

Яны заяжджалі да солтысаў, каб солтыс запісваў іх аб'езд. Прыехалі яны і да Базыля Дубаноўскага солтыса в. Баханы, Стаўпецкага пав. Солтыс Дубаноўскі, спадзяючыся на вартаўнікоў, ня вельмі моцна замкнуў сваю бялізну на двары. Патрулі прыехалі, іх запісалі,—ад'ехалі,—і солтыс, зачыняючы браму, заўважыў, што бялізна ўжо „паехала“. Трудна сказаць, хто яе забраў... Перад патрулямі была, а пасьля патруляў зьгінула. Хацеў солтыс дагнаць іх, але дзе там — паехалі!..

**Селянін.**

## Як выбіралі войта.

(В. Пінкавічы, Пінскага пав.).

20-га красавіка с. г. адбыліся ў нас выбары войта;—выбралі ім жыхара в. Выскага, Міхала Каржэневіча. Гэты Каржэневін ужо 3 гады, як стараецца папасьць на гэтае добрае месца, дзе ёсьць скуль што пацягнуць, — хадзіў да вялікага пана Асмалоўскага і прасіў, каб ён яму памог. А Асмалоўскі гэта не абы хто, а быўшы генаральны камісар заходніх зямель. Таксама гэты К. хадзіў вельмі часта да самажандовага інспэктара пры Сойміку п. Нядзельскага, які вельмі памог яму ў выбарах, бо інспэктар, прыехаўшы на выбары, запрапанаваў, каб войтам быў выбраны толькі Каржэневіч, а як другі, то будзе кепска, што ўжо й было, бо выбралі аднаго войта два месяцы назад, Жылевіча, і інспэктар яго не зацьвярдзіў, матывуючы тым, што ён ня граматны, а Каржэневіч можа яшчэ менш граматны за Жылевіча.

Каржэневіч, каб не праваліцца на выбарах, даў па 25 зл. радным „на боты“, а тыя за гэта, а больш дзеля крыку п. Нядзельскага, далі свае галасы за Каржэневіча, але ёсьць і чэсныя радныя, якія гатовы стаць сьведкамі ў гэтай справе.

Як відаць, К. будзе „добры“ войт, бо добра знаёмы з паліцыяй,—навет кажуць, што яго ведаець і дэфэнзыва, а пасьля захочацца яму вярнуць і свае страты, якія яму прынясьлі выбары, а сваёй пэнсіяй ён іх не пакрые, трэба будзе ўзяць скульсьці інш. А скуль як ня з гміны? Там мужык адказывай, бо паны Асмалоўскі і Нядзельскі далі „добрага“ войта, а яшчэ кажуць, што „вы яго самі выбралі“. Гэтакі ў нас „самаўрад“!..

**Радны.**

## „Місіянэры“.

(З Дзісьненшчыны).

Празароцкі ксёндз Габшэвіч, страціўшы сваім захаваньнем павагу сярод сваіх парахвіян і заўважыўшы, што ўжо шмат хто ня цмокае яму ў руку, выпісаў да сябе па вялікадні (здаецца, ажно з Львова) двох місіянэраў, якія цэлы тыдзень баялі людзям і пра рай, і пра пекла, і пра праўду, і пра любоў і г. д. Вучылі паасобку кабет і мужчын. Мужчын вучылі, каб яны не жаніліся з праваслаўнымі, каб нат не гаварылі з імі і ня віталіся! Тое самае ўкладалі ў вушы і кабетам. Адным словам, як праўдзівыя „апосталы“, вучылі люб'ві да свайго суседа. Інакш кажучы: калі твой бліжні праваслаўны — дык бяры камень і кідай яму ў галаву. І каб ня страх перад законам, дык і знайшліся-б усялякія „дэвоткі“, якія-б хутка ўзяліся-б за гэткую працу. Але, баючыся турмы, толькі пачалі грызьціся сусед з суседам—асабліва кабеты.

Дарагія людцы, — калі-ж вы набярэцеся розуму? Розуму сьветлага, чалавечага, а не місіянэрскага !

Хто-ж твой сусед праваслаўны? Ды такі-ж самы селянін-беларус, як і ты каталік. Усе мы дзеці аднэй зямлі, на якой ад веку працавалі і гаравалі нашыя дзяды і бацькі! Гэтак-жа гаруем і цяперака разам. Гэтак-жа дзяруць скуру і з каталіка і з праваслаўнага! Гэтак-жа апісываюць у таго і ў другога апошнюю худобу на падаткі. А вы сварыцеся, крычыцё, — а спытацца — дык і самі ня ведаеце, за што?! Усе гэтыя сваркі—дзеля нашых ворагаў — гэта вада на млынавы камень. Рэлігійны падзел патрэбны панам дзеля таго, каб пасварыць гэтым спосабам сялян, разьбіць іх еднасьць.

Сяляне беларусы, каталікі і праваслаўныя! Забудзьцеся пра „місіянэрскія“ навукі, кіньце сваркі, жывеце ў згодзе, як дзеці адэй працоўнай беларускай сям'і. Памятайце, што ў гэтай згодзе — нашая сіла і фундамант нашае лепшае будучыны.

**Нядоля.**

„Беларуская Справа“, адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны сьвядомы беларус павінен чытаць, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць сваей газэце.

# З Радавае Беларусі.

## Грамадзкія і мэліарацыйныя работы.

У сёлетнім будаўляным сэзоне грамадзкія работы адбудуцца па ўсіх гарадох БСРР. Усяго на грамадзкія работы вызначана 610.000 руб. На гэтыя грошы будзе праведзена шмат вялікшых работ па ўпарадкаваньню г. Менску і Віцебску і болей дробных у іншых гарадох Беларусі.

Усяго чалавека-дзён на работах будзе занята 273.000 з іх: кваліфікаваных 19.650, некваліфікаваных 253.000. Работы працягнуцца шэсьць месяцаў, і штодзённа будзе занята каля 2000 чал.

Найбольшы лік рабочых будзе заняты ў Менску—694 чал., у Віцебску — 526 чал., Магілёве — 349 чал., Бабруйску—100 чал., Барысаве—132 чал., Полацку—21 чал., Воршы—35 чал., Мазыры — 35 чал., Калінкавічах—11 чал., Слуцку—20 чал.

З прычыны вялікага беспрацоўя сярод жанчын і падросткаў местам дадзены ўказаньні аб карыстаньні з апошніх на грамадзкіх работах.

Для намечаных у сёлетнім годзе мэліарацыйных работ у Беларусі будзе выкарыстоўвацца мясцовае сялянства. Пры 100 днёх фактычнае работы ў сэзоне штодзень будзе занята 1500 чал. Апроч таго, па кал. фонду будзе занята ня менш 300 чал. у Слуцкай акрузе і на іншых работах штучнае будовы—каля 100 чал. На дзярж. тарпяную распрацоўку і на культурна-тэхнічныя работы патрабуецца штодзённа ня менш 500 — 600 чал. А таму трэба разьлічваць, што за ўвесь будаўляны сэзон на вышэйпамянёных работах будзе штодзень занята каля 2.500 чал.

Патрэбная колькасьць рабочых сялян разьмяркоўваецца па акругах такім парадкам:

У Бабруйскай акрузе — 245 чал., Барысаўскай—230 чал., Віцебскай—169 чал., Калінінскай—218 чал., Менскай—176 чал., Магілёўскай—142 чал., Мазырскай—341 чал., Аршанскай — 292 чал., Полацкай—194 чал., Слуцкай—493 чал.

## Экскурсіі рабочых і служачых.

Апрацаваны праэкт далёкіх экскурсій (у Крым. на Каўказ на Урал, у Сыбір і г. д.), а таксама і плян экскурсій тэхнічных, навуковых і краязнаўчых для рабочых і служачых БССР.

Экскурсіі пачынаюцца з 1-га мая і працягнуцца да 1-га кастрычніка.

## Бел. Дзярж. Вандроўны Тэатр у Слуцку.

Некалькі дзён у Слуцку працавала трупа Беларускага Дзяржаўнага Вандроўнага Тэатру. Артысты ігралі добра, ня гледзячы на тое, што большасьць з іх моладзь. Случчане надта цікавіліся пастаноўкамі і білеты раскупляліся нарасхват.

Надта добра прайшла і аставіла моцнае ўражаньне драма: „Пан Сурынта“. Аўтарам даны сталыя малюнкі беларускае вёскі і жыцьця беларусаў. Яскрава адбіты панскі ўціск на Беларусі і паўстаньні сялянства ў мінулыя гады. Разам з гэтым неабходна адмеціць і прыгожыя сьпевы, якія выконваюцца ў ходзе п'есы.

# Паштовая скрынка.

**Атрымана:**

Ад:—С. Бурлыкі, Язэпа Каспара, Сьцяпана Залеўскага, Канстан. Жука, Філарэта Клаўсуця, Яна Каваленкі, Яна Ромыша, Язэпа Грыгарчука, Рамана Дараховіча, А. Арабея, Е. Бярэзняка, А. Бычка, Язэпа Мацука, Уладзіміра Казаровіца, Яна Качэргіна, Тодара Богдзеля, Мікалая Башкевіча, Максіма Шэставіцкага, Сьцяпана Ступакевіча, Язэпа Крэнца, Тамаша Шэйна, Паўла Сержана, Паўла Жэбелева, Якіма Стэцкага, Паўла Ярашэвіча, Лукаша Ганчарэні, Канстан. Каша, Адама Пакумейкі, Міхала Казарэза, Даната Кірэя, Алякс. Шаторлі, П. Тура, Яна Сычава, Аляксандра Грушкоўскага, Тодара Вялічкі, Рамана Старакоша, Язэпа Хадамёнка, Аляксандра Жалудзя, Язэпа Собкі, Гальяша Санюка, Аляксандра Харляна—**па 2 зл.**

Ад: — Тодара Паўлюковіча, Базыля Жыгаліна, І. Кіслага, Т. Самойлюка, Міхала Хаванскага — **па 3 злоты.**

Ад: — Адама Сандраша, Язэпа Шумскага, Аляксандра Пахалка, Яна Ардынскага, Уладзіміра Крэня, Анастазі Алешкевіч, Сьцяпана Ліманта, Мірона Танкевіча, М. Ламейкі, Сьцяпана Цярэшкі—**па 4 злоты.**

Ад:—М. Зёнтка, Ніканора Карабейніка, П. Шашлка і Яна Кушэля—**па 5 злоты.**

Ад:—В. Кузьміча, Міхнюка, Мікалая Маліноўскага, Тодара Махнача і М. Шчуцкага—**па 6 злоты.**

Ад:—Васіля Чэбатара і Яна Смыка—**па 7 злоты.**

Ад:—М. Ключановіча—2 зл. 20 гр., Канстантага Саковіча—10 зл., Канстантага Пісарэвіча—1 зл. 50 гр., Антона Кандрацьева — 1 зл., Яна Трашчоткі — 6 зл. 50 гр., вёскі Хлюпічы—3 зл. 62 гр., Аксеньція Каравая — 11 зл., Уладзіміра Балкоўскага — 3 зл. 50 гр., С. Татарына—8 зл., Канстантага Кадыкі—1 зл.

Сымона Томцы—20 зл. ад Вас атрымалі. Маеце аплачана па 1-га лістапада г. г.

На Прэсавы Фонд „Бел. Справы“. С. Татарын—2 злоты.

Рэдактар-Выдавец: Ал. Вільчыцкі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.